## *ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»*




Спачатку некалькі радкоў з прадмовы да чарговай брашуры, якая толькі што выйшла ў нашай пастаяннай серыі «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы»: «Сацыялістычная рэвалюцыя ў Беларусі не была прадуктам «бальшавіцкага экспарту» з Масквы ці Петраграда. Яна была спадзяваннем і марай нашага народа аб лепшай долі, яна мела глыбокія карані ў нашым народзе і выспявала ў яго класавай барацьбе. Менавіта гэта і сцвярджаюць героі кніжкі У. Сазановіча «З кагорты мужных».

Такім чынам, бібліятэчка замежнага суайчынніка папоўніцца яшчэ адной кніжкай дакументальных нарысаў пра людзей зямлі беларускай. Яе з пэўнай падставай можна аднесці да серыі «Нашы славутыя землякі», якая з году ў год вядзецца і на старонках газеты, і ў дадатку да яе — «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы». З апошніх можна было б нагадаць брашуру Валянціна Грыцкевіча, у якой сабраны некалькі дакументальных нарысаў пра тых беларусаў, якія праславілі сваё імя і сваю Бацькаўшчыну рознымі геаграфічнымі і навуковымі адкрыццямі. Або «Мядовы бунт» Станіслава Цярохіна з яго цікавымі даследаваннямі жыцця Казіміра Семяновіча, аўтара трактата «Вялікае мастацтва артылерыі», ці Казіміра Чарноўскага, канструктара першай падводнай лодкі ў Расіі.

Брашура Уладзіміра Сазановіча расказвае пра людзей іншага лёсу — пра беларусаў, якія **рабілі рэвалюцыю**, змагаліся за ўстанаўленне Савецкай улады ў сваім краі, у іншых раёнах былой Расійскай імперыі, пралівалі кроў і аддавалі сваё жыццё за ідэалы Кастрычніка. Хто ж яны — гэтыя салдаты рэвалюцыі, з якіх пластоў народа выйшлі?

Вось Іван Апанасевіч — былы старшыня Клецкага рэўкома, камуніст з 1919 года, потым афіцэр-пагранічнік. Нарадзіўся ў вёсцы Панкратавічы Клецкай воласці ў сям'і беднага селяніна...

Вось Барыс Тузін — унтэрафіцэр царскай арміі, бальшавік, «небяспечны сваёй папулярнасцю сярод салдат», як было запісана ў яго асабовай справе; ваенны лёс закінуў яго ў Туркестанскі край, тут ён сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю і змагаўся за яе перамогу, тут яго абралі старшынёй Саўнаркома Закаспійскай вобласці, тут ён загінуў ад рук контррэвалюцыянераў. Нарадзіўся ў мнагадзетнай сям'і беднага селяніна Ільі Тузіна ў вёсцы Малая Балвань на Міншчыне. У пошуках кавалка хлеба служыў у паноў Чарноцкага, Засацкага, Халмоўскага.

Яшчэ адно імя. Фёдар Пілецкі. Таленавіты арганізатар партызанскай барацьбы супраць белапалякаў у 20-я гады, відны юрыст у Беларускай ССР. Сацыяльнае паходжанне такое ж, як і ў іншых герояў кніжкі, — з бедных сялян.

А цяпер вернемся зноў да тых радкоў з уступу: «Сацыялістычная рэвалюцыя ў Беларусі не была «экспартам бальшавікоў»... Яе **рабілі** працоўныя масы сялян, над якімі панавалі розныя Чарноцкія ды Халмоўскія, пралетарыят Беларусі, які падвяргаўся жорсткай эксплуатацыі і нацыянальнаму прыгнёту. Гэта вельмі да часу нагадаць сёння тым нацыяналістычным замежным «тэарэтыкам» і «даследчыкам» Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якія адмаўляюць гістарычную праўду: беларускі народ сам абраў свой шлях — шлях сацыялістычнага развіцця.

У брашуры Уладзіміра Сазановіча расказваецца і пра іншых славутых беларусаў, якія баранілі сваю Радзіму, сваю Рэвалюцыю ад ворага ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Дарэчы, пра аднаго з іх «Голас Радзімы» пісаў у папярэднім нумары. Гэта настаўнік з Міншчыны Аляксандр Сільвашка. Маладым хлопцам ён гнаў фашыстаў з Беларусі і са зброяй у руках дайшоў аж да Эльбы.

У гэтыя дні салдат Эльбы беларус Аляксандр Сільвашка госціць у Злучаных Штатах Амерыкі ў свайго баявога пабраціма Уільяма Робертсана, з якім вясной 1945 года абняўся на Эльбе.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

## МОЦНАЯ СЯМ'Я — МОЦНАЯ ДЗЯРЖАВА





**Менавіта так называецца свята савецкай сям'і, якое стала традыцыйным у горадзе беларускіх шахцёраў — Салігорску. Ва ўрачыстай абстаноўцы ў зале рытуалаў Палаца культуры і тэхнікі вытворчага аб'яднання «Беларускалій» праходзіць рэгістрацыя маладажонаў і віншаванне «сярэбраных» і «залатых» юбіляраў — тых, хто змог прайсці па жыцці поплеч чвэрць стагоддзя, паўстагоддзя.**

**Не ў навіну цяпер гараджанам і ўрачыстыя заручыны, безалкагольныя вяселлі, віншаванне ўзорных моцных сямей. Салігорск — горад маладых, у наступным годзе яму споўніцца толькі 30 год. Прыкладна такі і сярэдні ўзрост яго жыхароў. Традыцыя, якую прынялі і палюбілі салігорцы, будзе садзейнічаць умацаванню сям'і, выхаванню культуры адносін.**

**НА ЗДЫМКАХ: «залаты» юбіляр Клаўдзія ЖУКОЎСКАЯ дае наказ маладым Уладзіміру і Наталлі ІВАНОВЫМ; у час віншавання «залатых» юбіляраў і маладажонаў у рытуальнай зале Палаца культуры і тэхнікі «Беларускалія».**

**Фота У. АЛЯШКЕВІЧА.**

## *ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# НЕ МАГУ ГАВАРЫЦЬ НЯПРАЎДУ

Наша Радзіма адзначае сваё вялікае свята — 70-годдзе Вялікага Кастрычніка. У такія дні мы звычайна азіраемся на пройдзены шлях, успамінаем знамянальныя моманты жыцця. Для мяне такім момантам, які дазволіў многае зразумець і ацаніць па-новаму, стала паездка ў Беларусь пасля доўгіх год разлукі з родным краем. Прайшло ўжо больш года, а ўражанні па сёння такія, як быццам гэта было толькі ўчора. Я гасціў у маіх сваякоў, часта наведваў Беларускае таварыства «Радзіма», бываў у многіх цэрквах і абшчынах веруючых. Дзе б я ні быў на Радзіме, мне заўсёды было радасна знаходзіцца ў гушчы майго народа. Я зноў набыў такое патрэбнае нам на чужыне пачуццё прыналежнасці да роднай зямлі, пачуццё роднасці з усімі беларусамі. Мае думкі і сэрца там. Я не магу забыць трох месяцаў, што правёў у Мінску разам з вамі. А сёння пішу, бо мяне глыбока хвалюе, што тут, на Захадзе, розныя сродкі масавай інфармацыі не толькі скрываюць праўду пра маю Радзіму, але і, наадварот, стараюцца ўсяляк зганіць яе. Я, як веруючы чалавек, не магу гаварыць няпраўду, і мне часта даводзіцца многае тлумачыць ты то паверыў у небыліць ра нашу краіну. Так вучыць нас святое пісанне, так дыктуе нам сумленне. Таму я і не хачу прымаць паклёп на мой народ і зневажанні яго. А падобнай прапаганды рознага рс і калібру тут больш чь дастаткова, і шкада, што вельмі многія вераць і прыходзяць у жах. Прывяду толькі некалькі прыкладаў.

Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС газеты ФРГ надрукавалі, нібыта амерыканскія эксперты вызначылі, што магутнасць выбуху была ў некалькі разоў большая, чым бомбы ў Хірасіме. Потым уся прэса стракацела паведамленнямі, якія перадавалі па радыё і тэлебачанні, што Савецкі ўрад прыгнаў на работы па ліквідацыі вынікаў аварыі вялікую групу веруючых, зняволеных турмаў за сваё веравызнанне, і ўлады распарадзіліся не выдаваць ім ахоўнага адзення. Па ўсіх цэрквах на Захадзе пракацілася хваля абурэння і жаху. Многія паверылі ў гэты яўны падман. А цяпер тут увесь час паўтараюць, што нібыта ваш Генеральны сакратар заявіў, што веруючыя — самыя страшныя ворагі існуючага ў СССР ладу. І яшчэ многа падобных небыліц можна было б апісаць. Я ведаю, што вы прачытаеце і пасмеяцеся з гэтай бязглуздзіцы.

Я сам наведваў многія храмы і рэлігійныя абшчыны і пераканаўся, што ў Савецкім Саюзе існуе поўная свабода веравызнання. Ні ў адной царкве я не бачыў, каб хто-небудзь перашкаджаў маліцца. І словы аб тым, што на маёй Радзіме людзей за веру саджаюць у турму, выклікаюць у мяне смех і адначасова абурэнне. Смешна, таму што гэта яўная выдумка. А абуральна тое, што тут не саромеюцца лгаць, толькі б ачарніць сацыялістычны лад. Упэўнены, што Савецкая ўлада гэта выцерпіць. Ёй за семдзесят год давялося перажыць і не такія выпрабаванні. Але і мы, усе суайчыннікі, хто жыве за мяжой, не павінны заставацца ў баку, калі паклёпнічаюць на нашу Радзіму, а абавязаны расказваць людзям праўду пра яе.

**Міхаіл МЕЛЬНІК.**
ФРГ.

# ДАВАЙЦЕ ЎСПОМНІМ

Свята Кастрычніка сёлета шырока адзначалася ўсімі прагрэсіўнымі людзьмі свету. Разам з вамі, дарагія суайчыннікі, святкавалі яго і мы ў Бельгіі. Калі сабраліся ў зале на ўрачыстасці, я заўважыў, што ўсе людзі адрозніваліся сваімі паводзінамі ад таго, якія яны ёсць у звычайным жыцці. Усіх нас у гэты дзень перапаўнялі пачуцці радасці і гонару за нашу Радзіму. Перыяд нараджэння і станаўлення Краіны Саветаў настолькі багаты яркімі і грандыёзнымі па сваіх маштабах падзеямі, што для іншай дзяржавы іх хапіла б на многавяковую гісторыю.

Давайце ўспомнім, як бальшавікі самаахвяр... самаадданa паднімалі рабочых і сялян на барацьбу супраць векавога рабства, супраць цара, памешчыкаў і буржуазіі. Успомнім, як здзейснілася Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, як вольны народ змагаўся супраць капіталістаў усяго свету і ўнутранай рэакцыі і ў жорсткіх баях сумеў адстаяць сваю свабоду і незалежнасць, права на лепшае жыццё. Успомнім і тое, што ўпершыню ў гісторыі чалавецтва агульнасць класавых інтарэсаў памагла людзям розных нацыянальнасцей пераадолець векавую варожасць, аб'яднацца і стварыць саюз свабодных і раўнапраўных народаў, імя якому — савецкі народ. І гэты народ неаднаразова праяўляў бяспрыкладны гераізм і рашучасць, каб адстаяць заваёвы Кастрычніка. Мне асабіста блізкі і добра вядомы па ўласнаму вопыту перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў. Тады ўсе народы Савецкага Саюза змагаліся разам супраць фашысцкай Германіі і перамаглі. Тыя цяжкія выпрабаванні сёння адышлі ў мінулае, але яны не забыты. Мы не можам сказаць, што цяпер у нашага народа поўнасцю наладзілася спакойнае, мірнае жыццё. Сёння ён на чале з Цэнтральным Камітэтам КПСС змагаецца за спыненне гонкі ўзбраенняў, за ліквідацыю ядзернай і іншых відаў зброі масавага знішчэння. У гады Вялікай Айчыннай вайны я спадзяваўся і верыў у перамогу нашага гераічнага савецкага народа над фашысцкай Германіяй. Таксама і цяпер веру ў вашу перамогу ў барацьбе за знішчэнне ядзернай зброі, за захаванне міру на Зямлі.

Сардэчна віншуем вас і ўвесь савецкі народ з вялікім святам — 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гераічнаму савецкаму народу жадаем усяго самага добрага!

**Іван БАЧКАТАЎ.**
Бельгія.

ЗНОЙДЗЕНА УНІКАЛЬНАЯ ФАНАГРАМА ГОЛАСУ ЛЬВА ТАЛСТОГА

# ЯГО ЗАКЛІК ГУЧЫЦЬ ПРАЗ ГАДЫ

Гісторыя гэтага запісу такая. 22 ліпеня 1908 года Томас Алва Эдысан, славуты амерыканскі вынаходнік, стваральнік фанографа, звярнуўся да Льва Талстога з просьбай зрабіць для яго некалькі запісаў на англійскай і французскай мовах.

«...Пажадана, каб вы звярнуліся да народаў усяго свету, —пісаў Эдысан, — выказаўшы якую-небудзь ідэю, якая магла б дапамагчы чалавецтву рушыць наперад у маральных і сацыяльных адносінах. Мае фанаграмы распаўсюджваюцца цяпер ва ўсіх цывілізаваных краінах, а ў ЗША іх ужо каля мільёна. Ваша слава сусветная, і я ўпэўнены, што Ваш зварот будзе выслуханы з вялікай увагай мільёнамі людзей, якія не змогуць не знаходзіцца пад уражаннем глыбіні і шчырасці Вашых слоў, а словы гэтыя, дзякуючы такому «пасрэдніку», будуць захаваны навечна...»

Пасля некаторых ваганняў Талстой згадзіўся. 23 снежня 1908 года хатні ўрач Талстога Д. Макавіцкі запісаў: «Прыехалі ад Эдысана двое англічан з добрым фанографам запісаць і потым перадаць голас Льва Мікалаевіча».

24 снежня: «Леў Мікалаевіч... сёння, перш чым сказаць у фанограф, практыкаваўся, асабліва ў англійскім тэксце». Талстой рыхтаваўся да запісу вельмі старанна, хваляваўся, доўга абдумваў, што менавіта варта запісаць, звяртаючыся, як гэта меркаваў Эдысан, да мільёнаў слухачоў «ва ўсіх цывілізаваных краінах свету».

На наступны дзень Талстой прачытаў у фанограф на англійску сваю «Прытчу пра добрага чалавека» (у англійскім перакладзе яна атрымала назву «Гасцініца») і розныя ўрыўкі са сваіх філасофскіх трактатаў.

Доўгія гады лічылася, што гэты гуказапіс загінуў у пажары 1914 года, які знішчыў усё сховішча эдысанаўскага цэнтра (калі сярод іншых неацэнных запісаў загінула і адзіная фанаграма голасу Марка Твэна).

І вось цяпер высветлілася, што гуказапіс голасу Льва Талстога, мабыць, адзіны, які ўцалеў ад пажару 1914 года. Адкрыццю гэтаму садзейнічалі вядомая амерыканская пісьменніца Бэл Каўфман, супрацоўнік Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі Эдвард Казінец і захавальніца Музея Эдысана Мэры Б. Боўлінг.

У пісьме ў Дзяржаўны літаратурны музей у Маскве архівіст Мэры Б. Боўлінг пісала, у прыватнасці:

«... У мінулым ужо не раз узнімалася пытанне аб тым, што ж стала з валікамі, якія Талстой запісаў для Эдысана, асабліва з двума запісамі на англійскай мове...

Арганізаваныя пошукі дапамаглі выявіць шмат звязанай з гэтым карэспандэнцыі і дакументацыі, але не самі валікі. Мяркуецца, што яны загінулі ў час вялікага пажару...

Тым не менш у адказ на Ваша пісьмо мы зноў старанна даследавалі некаторыя нашы непазначаныя валікі. Я шчаслівая паведаміць Вам, што мы знайшлі валік з запісам Талстога на англійскай мове «Гасцініца». Прытча для дзяцей».

Валік з запісам Талстога захаваўся дзякуючы таму, што менеджэр студыі Уолтэр Мілер трымаў яго ў сябе дома. Пакуль мы мяркуем, што ў агні пажару 1914 года загінуў зроблены тады ж валік з запісам «Крывадушнасць грамадства» (так у лабараторыі Эдысана быў названы ўрывак з трактата «Царства божае ўнутры нас»)... Аднак, — працягвае Мэры Б. Боўлінг, — калі ён знойдзецца, я тут жа дам Вам знаць».

Такія геніі, як Леў Талстой, здольныя гаварыць з людзьмі скрозь гады. Надзіва сучасна гучыць сёння запісаны амаль 80 год назад голас Льва Талстога, які заклікаў у сваіх прытчах і трактатах да міру, справядлівасці і ненасілля.

**Леў ШЫЛАЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея ў Маскве.**





# БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ

Чатырнаццаты раз прайшоў традыцыйны Усесаюзны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень». Ён прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Характэрны штрых. Акрамя Мінска і абласных цэнтраў, сёлетняя геаграфія фестывальных маршрутаў—гэта 138 канцэртаў і творчых сустрэч у 60 тэатральна-канцэртных цэнтрах, створаных у сельскіх клубах, Дамах і Палацах культуры, выступленні 22 вядомых мастацкіх калектываў краіны, на якіх пабывалі больш за дзвесце тысяч гледачоў...

Адкрыла фестываль у зале філармоніі сімфанічная паэма Шастаковіча «Кастрычнік», прысвечаная 50-годдзю рэвалюцыі і, дарэчы, напісаная ў Беларусі, калі кампазітар адпачываў у Белавежскай пушчы. Яе выканаў Дзяржаўны Малы сімфанічны аркестр Саюза ССР. Гэта самы малады калектыў з аркестраў краіны. Тым не менш вялікім поспехам карысталіся яго сёлетнія гастролі ў Венгрыі і Польшчы.

Паэма «Кастрычнік» прагучала ўрачыста і дынамічна, выяўляючы ўсю шырыню пачуццяў і панараму рэвалюцыйных падзей.

Цёпла сустрэлі гледачы беларускай сталіцы выступленні маскоўскіх музыкантаў, якія выканалі таксама творы Пракоф'ева, Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава.

На працягу 35 гадоў Дзяржаўны Волжскі народны хор з'яўляецца яркім прапагандыстам самабытных народных песень і танцаў, якія дэманструюць жанравае багацце музычна-паэтычнага і танцавальнага фальклору Паволжа. Ён шырока вядомы ў нас у краіне і за мяжой.

Можна сказаць, што ў гэтым творчым калектыве гарманічна спалучаюцца талент і маладосць. Гледачам Брэста, іншых раёнаў рэспублікі даспадобы прыйшліся такія папулярныя народныя песні, як «Ах, ты, стэп шырокі», «Малодка, малодка», «Уніз па маці, па Волзе» і іншыя.

Вядома, найбольшая колькасць калектываў была прадстаўлена гаспадарамі: Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча, Дзяржаўны ансамбль танца БССР. Яны выканалі ў асноўным новыя і абноўленыя праграмы, прысвечаныя 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.

З сольнымі канцэртнымі праграмамі выступілі салісты Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета заслужаныя артысты БССР Людміла Колас, Марыя Гулегіна, Віктар Скарабагатаў і іншыя.

Сустрэліся мінчане і з прэм'ерай араторыі на вершы іспанскага паэта Г. Рык'ера «Песня пра апошняга трубадура». Яе падрыхтаваў беларускі кампазітар Дзмітрый Смольскі.

Яшчэ адна акалічнасць. Мінулагоднія фестывалі вызначаліся залішняй акадэмічнасцю, нібы былі разлічаны на адных аматараў класічнай музыкі. А як з эстрадай?

Вядома, Усесаюзны фестываль мастацтваў — гэта асаблівы эпагей у прапагандзе перш за ўсё высокага мастацтва. Тым не менш сёлета эстрада была прадстаўлена і колькасна, і якасна. Гледачы ўбачылі на сцэнах вядомыя і ў нас, і за мяжой калектывы: вакальна-інструментальныя ансамблі «Вітамін», «Дружба», «Верасы», ансамбль сучаснага танца «Сінтэз», эстрадны ансамбль «Агні Баку», рок-групу «Жнівень»... На Віцебшчыне адбылася творчая сустрэча з вядомым беларускім кампазітарам Эдуардам Ханком.

Усесаюзны фестываль «Беларуская музычная восень» стаў значнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі, святам мастацтва. Але арганізатары яго выслухалі ад гледачоў і нямала заўваг, слушных прапаноў. Напрыклад, было выказана пажаданне падрыхтоўваць на будучыню фестывалі па заяўках. Гэта дазволіць пазбавіцца ад аднастайнасці, з'явіцца больш выдумкі, фантазіі. Можна меркаваць, што заўвагі і прапановы будуць выкананы, бо свята мастацтваў і разлічана менавіта на шырокую аўдыторыю слухачоў.

**НА ЗДЫМКАХ:** на сцэне гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў выступае Дзяржаўны Краснаярскі ансамбль танца Сібіры; на канцэрце ў Быхаве, што на Магілёўшчыне, у час фестывалю разам з узбекскімі артыстамі Шухратам **ЮЛДАШАВЫМ** і Тахірам **САБІРАВЫМ** выступала і ўдзельніца мастацкай самадзейнасці мясцовага Палаца культуры Нона **СТАРЫКОВІЧ.**

**Фота С. ЖАЛУДОВІЧА і І. ЮДАША.**

## ЛЁСЫ НАРОДНЫХ ГЕРОЯЎ

У новую кнігу гісторыка з Гродна Барыса Клейна «У часіну выпрабаванняў», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», увайшлі дакументальныя гістарычныя нарысы, напісаныя на падставе шматгадовых архіўных пошукаў і прысвечаныя гісторыі развіцця рэвалюцыйнага руху ў Расіі.

У першай частцы «Справа Бонч-Асмалоўскіх» гісторык расказвае аб выхадцах з Беларусі Анатолії і Варвары Бонч-Асмалоўскіх і іх сваяках. Усе яны прысвяцілі жыццё барацьбе за сацыяльную справядлівасць. Бонч-Асмалоўскія былі знаёмы з Соф'яй Пяроўскай і Верай Фігнер. Іх добра ведалі рэдактары «Іскры» Пляханаў, Аксельрод і Засуліч. У 20-м нумары «Іскры» за 1902 год у паведамленні «Хроніка рэвалюцыйнай барацьбы» пісалася: «Масква. Выехала партыя з Маскоўскай перасыльнай турмы ў суботу 23 сакавіка ў 3 гадзіны ночы... Да раніцы кружылі па запасных шляхах. У 7 гадзін раніцы з таварным рушылі на Тулу...» У пераліку ссыльных другім названы Анатоль Бонч-Асмалоўскі, трэцім — яго сын Іван.

Другая частка кнігі «Прачытаная крыптаграма» расказвае аб жыцці і дзейнасці першага беларускага рэвалюцыянера, які асабіста быў знаёмы з К. Марксам і Ф. Энгельсам, Мікалая Судзілоўскага-Руселя.

Аўтар не паўтарае раней сказанага аб Судзілоўскім, а знаёміць чытачоў з новымі фактамі.

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ**

***

У святаў—грацыі петард,—
У суцэльных іскрах свецiць дата.
А ты, паэзія, як сад—
Сама нагадваеш мне свята.

Між будняў быстрых і падзей
Ты не з'яўляешся парадам.
З чым параўнаць мне твой надзел,
Які назаўтра ўзыдзе садам!

Няхай буран ды халады
Свае спраўляюць буфанады.
На дрэвах важкія плады
Ды не збаяцца лістападаў!

Узварухніся ж, дух народа,
Найменнем паўшых і жывых!
Няўжо мы пішам для бязродных
А ці чытаем для глухіх!

З даверам светлым і сурова
У кожны твар глядзіцца мова
З глыбінь, з купалляў нерастаўшых—
Мая, твая, балесна—НАША!

**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**

### БЕЛАРУСЬ

*Я—Беларусь!*
*У. КАРАТКЕВІЧ*

Як у сям'і сваіх сясцёр,
Я—роўная з усімі,
І неба роднага шацёр
Мне не шкадуе сіні.
А выйдуць рэкі з берагоў—
Іх не стрымаць прадвеснем,—
І між узгоркаў і гаёў
Мігцяць блакітам веснім...

Хоць я ўладальніцай слыла
Маёй зямлі чароўнай,
Дык век бяздольная была,
Як падчарка ўсё роўна.
Любіла жаць, снапы вязаць,
Але жыла ў нядолі
І ўголас не магла сказаць,
Як хочацца мне волі!

Маіх катуючы сыноў
За веру іх і мову,
Кавалі злыдні з ланцугоў
Усім адну абнову.
Як ноч без месяца і зор,
І мне быў свет нямілы,
Які б арол ні распасцёр
Над галавою крылы.

Маіх дзяцей ён спакушаў
Ці прыніжаў без меры
І адрачыся прымушаў
Іх ад бацькоўскай веры.
І, чорнай верачы мане,
Мае сыны і дочкі
Прызнаць баяліся мяне—
З адчаю беглі ўпрочкі.

Аднак, як родных, я люблю
І тых, хто ў час нягоды
Праславіў іншую зямлю
І іншыя народы.
Хто апяваў красу сясцёр
На іх уласных мовах
На берагах маіх азёр,
У пушчах ці дубровах.

О, колькі ліха перажыў
Народ у краі родным,
Калі арол над ім кружыў
Драпежнікам галодным.
Ды як народ ні бедаваў,
Знаходзіў выйсце ў працы.
І мне на славу будаваў
Саборы і палацы.

Араў зямлю сваю штогод,
Упарты, працавіты,—
Таму не мог такі народ
Не быць таленавіты!
Хоць быў прыгнечаны спрадвек,
Не траціў у галечы,
Дзе панавалі глум і здзек,
Свой воблік чалавечы.

Час горы ліха перацёр
На захадзе і ўсходзе,
Каб роднай між сваіх сясцёр
Мне жыць з усімі ў згодзе.
Народ, што голаў не схіне
Ні перад кім у скрусе,
Спявае песню пяюць мне,
Савецкай Беларусі!

# ВЫПІСВАЙЦЕ «ГОЛАС РАДЗІМЫ»,

## ГАЗЕТУ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Паважаныя замежныя чытачы «Голасу Радзімы»!

Хто з вас не ўспамінае родны край, дзе прайшлі гады вашага дзяцінства і юнацтва — сінявокую прыгажуню Беларусь, яе палі і лясы, свае родныя гарады і вёскі? І, напэўна, кожнаму цікава ведаць, якой стала за гэтыя гады наша рэспубліка, як жывуць сёння вашы суайчыннікі на Радзіме.

Атрымаць адказы на гэтыя пытанні многім з вас дапамагае «Голас Радзімы».

Газета знаёміць сваіх чытачоў з эканамічным, грамадска-палітычным і культурным жыццём рэспублікі, расказвае пра дзейнасць БССР на міжнароднай арэне;

пра важнейшыя падзеі ў Савецкай краіне;

па вашых просьбах публікуе матэрыялы пра сённяшні дзень родных вёсак і гарадоў.

Не абысціся без «Голасу Радзімы» і тым, каго цікавіць гісторыя роднага краю, жыццё і дзейнасць нашых славутых землякоў.

Газета таксама прадставіць вам навінкі беларускай літаратуры, падкажа, дзе іх можна набыць.

Ці паклапаціліся вы аб тым, каб і ў наступным, 1988, годзе да вас у дом кожны тыдзень прыходзіла наша газета і прыносіла вам навіны з Беларусі?

Ці падпісаліся вы на «Голас Радзімы»?

Дапамогуць вам у гэтым фірмы і арганізацыі, якія прымаюць падпіску на савецкія газеты і часопісы ў краіне, дзе вы жывяце. Нагадваем іх адрасы.




**АФГАНІСТАН**

Baihaki Book Publishing and Importing Institute
Kabul, Afghanistan

**АЎСТРАЛІЯ**

New Era Books & Records,
64-68 Shepherd Street,
Marrickville, N.S.W. 2204
New Era Bookshop
425 Pitt Street
Sydney NSW 2000

**АЎСТРЫЯ**

Globus Vaz,
A-1206 Wien,
Höchstädtplatz, 3

**АРГЕНЦІНА**

Szmid Sergio
Directorio 486
1822 Valentin Alsina
Buenos Aires

**БЕЛЬГІЯ**

Association
Belgique — U.R.S.S.
21, rue du Meridien
1030 Bruxelles

**БРАЗІЛІЯ**

«Livraria Tecnocientifica»
Rua Conde de Sarzedas, 246
01512 São Paulo
«Ciencia e Paz»
Rua Senador Dantas 117
Sobre Loja 206
Centro CEP 20.031
Rio de Janeiro
«Livraria Valentina Rozov»
Rua 24 de Maio
35 3 Andar
Conjunto 312, São Paulo

**ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ**

Central Books Ltd.
37 Gray's Inn Road
London W.C. IX 8PS
(Books in English)
Collet's Russian Bookshop
39 Museum Street
London W.C.1

**ГАЛАНДЫЯ**

«Pegasus Boekhandel»
Leidsestraat 25
1017 NT Amsterdam,

**ГАНА**

Science Spot Bookshop
P.O. Box 10331
Accra North Ghana

**ГРЭЦЫЯ**

Kultura
10, Tsimiski st.
Thessaloniki
Synchroni Epochi
Solonos, 130
Athens 145

**ЕГІПЕТ**

AlAhram
Al-Galaa Street
Cairo, T. ARE

**ЗАІР**

Inhecoco
B.P. 16513
Kinshasa 1, Zaire

**ІНДЫЯ**

Navchetan
Rani Jhansi Road
New Delhi 110055
Bingsha Shatabdi
75/C Park Street
Calcutta 700016

**ІТАЛІЯ**

Libreria Italia — U.R.S.S.
Piazza della
Repubblica, 47
00 185 Roma

**ІСПАНІЯ**

Libreria Rubinos
Alcala, 98
Madrid — 28009

**ЙЕМЕН**

Dar al-Kalam
P. O. Box 1107
Ali Abdul Mugni Str.
Sanaa, YAR

**КАНАДА**

Progress Books
71 Bathurst Street
3rd Floor
Toronto, Ont., M5V2P6
Librairie Nouvelles
Frontieres Inc.
185 rue Ontario est
Montreal, P.Q. H2X 1H5

**КЕНІЯ**

Wanyee Bookshop Ltd.
P.O. Box 46815
Nairobi, Kenya

**КАЛУМБІЯ**

«Ediciones Suramérica Ltda»
Carrero 7 No. 22-44
piso 7
Aptd. aêreo 14470 y 8971
Bogotá D. E.
Colombia

**КУВЕЙТ**

Om Alkora Bookshop
P.O. Box 18130
Al-Farvanja
Kuwait

**ЛІВАН**

High Type S.A.R.L.
P.O. Box 11/6682
Beirut, Lebanon

**МЕКСІКА**

«Servicios Bibliograficos
Palomar S.A.»
Aparta' Postal 42045
Mexic C.P. 06400
México

**НІГЕРЫЯ**

Kodak's Provision Stores
Bookshop
P.O. Box 48
Afikpo State

**НОВАЯ ЗЕЛАНДЫЯ**

Socialist Bookshops
P. O. Box 1987
Auckland I, New Zealand
Gordon and Gotch (N.Z.)
Ltd.
P.O. Box 1959
Wellington, New Zealand

**ПЕРУ**

«Librerias y Distribuidoras
Cosmos y Siglo XX»
Av. Tacna No. 219
Lima 1, Perú

**ЗША**

Znanie Book Store
5237 Geary Boulevard
San Francisco, 94118, CA
Victor Kamkin Bookstore, INC
12224 Parklawn Drive
Rockville, Maryland 20852

**ТАНЗАНІЯ**

Tanzania Standard
(Newspapers) Ltd.
P.O. Box 9033
Dar-es-Salaam, Tanzania

**ТОГА**

Librairie Populaire
B. P. 945
129 Boulevard Airculaire
Lome, Togo

**ТУНІС**

SO. TU. PRESS
3, rue du Maroc
Tunis, Tunisie

**УГАНДА**

Kataka Agencies
P.O. Box 4416
Kampala, Uganda

**УРУГВАЙ**

«Ediciones Pueblos Unidos»
Colonia 1191
Casilla de Correo 6622
Montevideo

**ФРГ**

W.E. Saarbach GmbH
Ausland-Zeitungshandel
5 Köln 1
Follerstrabe 2 —
Postfach 10 16 10
Kubon und Sagner
P.O. Box 34 01 08
D-8000 München 34

**ФІНЛЯНДЫЯ**

Akateeminen Kirjakauppa Oy
Subscription Department
Postilokero 128
99191 Helsinki 10

**ФРАНЦЫЯ**

Les Livres Etrangers, S.A.
10, Rue Armand-Moisaut
Cedex 15
75737-Paris, France

**ШВЕЙЦАРЫЯ**

Librairie Rousseau
14, rue J.-J. Rousseau
1201 Geneve
Pinkus genossenschagt
Froschangasse 7
8025 Zurich 1

**ШВЕЦЫЯ**

Förbundef Sverige
Sovjetunionen
Box 15096
Katarinavägen 20, 1 tr
S-10465 Stockholm

**ЭФІОПІЯ**

«Kuraz Publishing Agency»
P.O. Box 30933
Addis-Ababa, Ethiopia

---

Аляксей РУСЕЦКІ

Мутны снежань беларускі,
голае восені галлё,
нізка неба, нізкай птушкі
скасабочаны палёт.

Чорны тлум: вароны, галкі
з крыкам цягнуцца ў імжы
чарадою ў скверы, паркі
зноў рабіну латашыць.

Сыты крык перад начлегам,
цьмяны вечар, сум нямы;
хай бы дзень на дрэвы снегам
з яснай графікай зімы...



Фотаэцюд А. НІКАЛАЕВА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак № 1780.